# Магістрат

«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №8(92), жнівень, 2017г.


# “ВІЦЕБСКІМ КУРАПАТАМ” МОГУЦЬ НАДАЦЬ ГІСТОРЫКА-МЭМАРЫЯЛЬНЫ СТАТУС



**Мясьціны каля вёскі Хайсы Віцебскага раёну могуць быць прызнаныя мэмарыяльнымі. Пра гэта гаворыцца ў адказе зь Віцебскага аблсавету, дасланым старшыні Віцебскай абласной арганізацыі Партыі БНФ Канстанціну Смолікаву.**

Паводле ліста з аблвыканкаму, цяпер вывучаюцца вынікі пошукавых прац, якія праводзіліся ў траўні гэтага году з удзелам 52-га пошукавага батальёну і супрацоўніка Інстытута гісторыі Акадэміі навук Алега Іова. Згодна з высновамі навукоўца, «сабраныя знаходкі (гільзы, абутак, манэты, гузікі і г.д.), чарапы з агністрэльнымі раненьнямі і сам спосаб пахаваньня зьяўляюцца ўскоснымі доказамі масавых рэпрэсій пэрыяду 1937–38 гадоў». У лісьце таксама гаворыцца, што неабходна правесьці яшчэ шэраг адмысловых дасьледаваньняў і экспэртызаў, і па выніках будзе прынята рашэньне наконт наданьня гісторыка-мэмарыяльнага статусу гэтым мясьцінам.

Да якіх высноваў прыйшлі пашукавікі адмысловага 52-га батальёну, у адказе не паведамляецца. Аднак сказана, што ў вобласьці пачаўся пераўлік месцаў масавых пахаваньняў і што «масавыя палітычныя рэпрэсіі 30-40-х гадоў мінулага стагодзьдзя асуджаныя дзяржавай і грамадзтвам».

Старажылы вёскі Хайсы і навакольных вёсак згадваюць пра масавыя расстрэлы ў бліжэйшым лесе, якія адбываліся ў 1937–38 гадах. Мясцовыя ўлады сьпярша ставіліся да іхных успамінаў скептычна, аж пакуль у лесе не пачалі адкрывацца ўсё новыя невядомыя масавыя пахаваньні.

Чалавечыя парэшткі знаходзяць у лесе каля вёсак Хайсы і Дрыкольле з 2014 году. Найверагодней, масавыя пахаваньні зацікавілі «чорных капальнікаў», якія ў пошуках спажывы проста павыкідалі зь зямлі чалавечыя косткі. З ініцыятывамі ўшанаваць памяць ахвяраў, паставіўшы тут мэмарыяльныя знакі, ужо ня першы год выступае грамадзкая ініцыятыва «Хайсы». Рабіць гэта ўлады не сьпяшаюцца, і актывісты самі ўсталявалі ў лесе пад тры дзясяткі мэмарыяльных крыжоў.

У жніўні 2017 году ўдзельнікі ініцыятывы «Хайсы» падалі дакумэнты на рэгістрацыю аднайменнай гістарычна-асьветніцкай грамадзкай арганізацыі. Актывісты мяркуюць, што гэта паспрыяе большаму ўплыву і на пазыцыю ўладаў, і на грамадзкую думку.

# ЧАМУ НЕЛЬГА ДАВАЦЬ ІНТЭРВ'Ю ПРАКРАМЛЁЎСКІМ РЭСУРСАМ

**Чаму нельга даваць інтэрв'ю пракрамлёўскім рэсурсам ды ўдзельнічаць у арганізаваных імі круглых сталах ды іншых мерапрыемствах. Піша старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч.**

Надзвычайная актыўнасьць «незалежных» мэдыйных арганізацый з выразнай пракрамлёўскай арыентацыяй вымагае яснай рэакцыі ды яснай цвёрдай пазіцыі ўсіх сілаў, што выступаюць супраць захавання ды ўзмацнення ўплываў Крамля ў Беларусі.

Пракрамлёўскія псеўда-СМІ ды псеўдагрaмадскія арганізацыі ў Беларусі імкнуцца на першым этапе дзейнічаць вельмі акуратна, дэманструючы адкрытасць, канструктыўнасць ды гатоўнасць да супрацоўніцтва. Маўляў, мы стаім на розных пазіцыях, але мы за тое, каб і вашая пазіцыя таксама прагучала. Мы дадзім вам трыбуну, прыходзьце, дыскутуйце, будзем разам шукаць найлепшыя рашэнні. Гучыць прыгожа, сумленна ды шчыра, хіба не?

А цяпер давайце ўключым логіку. Спадзяюся, нікога тут не трэба пераконваць, што супраць беларускага грамадства (як і супраць шмат якіх грамадстваў, асабліва ў Цэнтральнай ды Усходняй Еўропе) Крэмль вядзе інфармацыйную вайну. І ўсе гэтыя пракрамлёўскія арганізацыі ў Беларусі — гэта перадусім **СРОДКІ ІНФАРМАЦЫЙНАЙ ВАЙНЫ**. І толькі з гэтай перспектывы трэба іх разглядаць. Відавочна, усе гэтыя арганізацыі ствараюцца не дзеля таго, каб пашыраць плюралізм у беларускім грамадстве і тым болей не дзеля таго, каб даць трыбуну прадстаўнікам нацыянальна-кансерватыўных сілаў або ліберальных поглядаў у Беларусі.

Яны ствараюцца выключна дзеля прасоўвання ідэяў ды ўстановак крамлёўскай прапаганды ў Беларусі. І палітычныя апаненты ім патрэбныя як паветра. Але толькі дзеля таго, каб раскруціцца за іх кошт ды стварыць сабе рэпутацыю незалежных ды аб’ектыўных, каб пасля больш эфектыўна дурыць галовы беларусам.

Таму не спрабуйце гуляць у плюралізм ды канструктыўнасць з тымі, хто вядзе супраць вас і супраць вашага грамадства інфармацыйную вайну. Проста кажыце ім «не». Заўсёды.

facebook.com/alaksej.janukevich
http://nn.by/?c=ar&i=196127

Магістрат

**Выдавец**:
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

*http://kamunikat.org/mahistrat.html*

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных і агітацыйных мэтах.

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ**
**вул. Церашковай, д.11, п.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
Тэлефоны для кантактаў:
**8-029- 710-42-23, 713-22-00, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.**
**E-mail: kas_vit@tut.by**
**WWW.NARODNY.ORG**
**VK.COM/PARTYJA_BNF**
**WWW.MOLADZ.INFO**
**VK.COM/BNF_MOLADZ**

**ДАСЫЛАЙЦЕ АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ ГА БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"**

**Рэквізыты: р/р 3015100147004 ААТ "Белзнешэканомбанк" філіял Мінскае аддзяленьне № 1 код 226, УНП: 100052236**

**"прызначэньне плацяжу" — "бязвыплатны ўзнос"**

**— для ахвяраванняў на аплату сядзібы — "бязвыплатны ўзнос на аплату арэнды памяшкання".**

**Шчыры дзякуй за Вашыя ахвяраваньні!**

# ВЯРХОЎНЫ СУД АДМОВІЎ У РЭАБІЛІТАЦЫІ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

**Моладзь БНФ атрымала чарговую адмову ў рэабілітацыі беларускай паэткі Ларысы Геніюш - гэтым разам з Вярхоўнага суду.**



Рэабілітацыі імя выбітнай літаратаркі і грамадзкай дзяячкі актывісты арганізацыі дамагаюцца даўно. Але на ўсе ініцыятывы і спробы ўшанаваньня яе памяці ўлады рэагуюць адмоўна - паведамляе Беларуская служба Радыё Свабода.

Назваць у яе гонар вуліцу ў Менску ці на яе радзіме ў Зэльве ўлады лічаць немэтазгодным. Ушанаваць імя ў назьве бібліятэкі — неабгрунтаваным.

Раней актывісты сабралі і накіравалі ў Генпракуратуру больш за тысячу подпісаў за рэабілітацыю паэткі, на што быў дадзены адказ: «Геніюш Л.А. прызнана не падлягаючай рэабілітацыі».

Прыйшоў чарговы адказ, гэтым разам зь Вярхоўнага суду. Улады адмаўляюць у рэабілітацыі, спаслаўшыся на пастанову прэзыдыюму Вярхоўнага суду ад 24 лістапада 1999 году, згодна зь якой асоба Геніюш ня можа быць рэабілітаваная «за зьдзейсьненыя ў пэрыяд Вялікай Айчыннай вайны злачынствы, прадугледжаныя артыкуламі 66 і 76 КК БССР (у рэдакцыі 1928 году).

Артыкул 66 — гэта «Аказаньне дапамогі міжнароднай буржуазіі», а 76 — «Удзел у антысавецкіх арганізацыях».

«І гэта пры тым, — падкрэсьліваюць моладзевыя актывісты, — што „злачынствы", за якія была пакараная Ларыса Антонаўна, ужо даўно перасталі лічыцца такімі ў Беларусі, а падобных артыкулаў і блізка няма ў Крымінальным кодэксе Рэспублікі Беларусь на сёньняшні дзень».

На перакананьне актыву «Моладзі БНФ», атрыманы адказ чарговым разам даводзіць абмежаванасьць поглядаў сёньняшніх уладаў, якія дагэтуль жывуць калясавецкімі перакананьнямі, а таксама відавочную непавагу да літаратурнай спадчыны беларускага народу.

Ларыса Геніюш прайшла складаны жыцьцёвы шлях, вытрымаўшы ўсе выпрабаваньні, якія падрыхтаваў ёй лёс і савецкія ўлады — ад рэпрэсій і ГУЛАГу да забароны на творчасьць.

«Таму мы можам быць упэўненымі, што рана ці позна яе імя будзе ўшанавана з годнасьцю, а яе вершы зноў загучаць на ўроках беларускай літаратуры, нягледзячы на ўсе надуманыя прысуды і так званыя «злачынствы», — падсумоўваюць сябры «Моладзі БНФ».

Да 1947 году Ларыса Геніюш жыла ў Празе, выконвала функцыі Генэральнага сакратара ўраду БНР, займаючыся ўпарадкаваньнем і захаваньнем архіву незалежнай рэспублікі. У 1948 годзе яе разам з мужам перадалі савецкім уладам, якія абвінавачвалі яе ў «антысавецкай нацыяналістычнай дзейнасьці». Ларысу Геніюш асабіста дапытваў міністар Дзяржбясьпекі БССР Лаўрэнцій Цанава, які намагаўся змусіць яе перадаць архівы БНР.

У лютым 1949 году разам з мужам паэтку асудзілі на 25 гадоў зьняволеньня ў савецкіх лягерах у Комі ды Мардовіі. У 1956 годзе пасьля частковай рэабілітацыі Ларыса Геніюш вярнулася на радзіму мужа ў Зэльву. Прынцыпова адмаўлялася прымаць савецкае грамадзянства, засталася да канца жыцьця грамадзянкай Чэхаславаччыны.

Адмова рэабілітаваць паэтку Ларысу Геніюш (1910 - 1983) не адпавядае прававым нормам. Такое меркаванне выказаў гісторык Ігар Кузняцоў.

Раней Вярхоўны суд Беларусі адказаў на запыт «Моладзі БНФ» у справе рэабілітацыі Геніюш. Было заяўлена, што паэтка была асуджаная паводле крымінальнага кодэксу ў рэдакцыі 1928 года «за ўчыненыя ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны злачынствы», і ў ейнай рэабілітацыі было адмоўлена. Гэты закон быў скасаваны яшчэ Міхаілам Гарбачовым, распавёў Ігар Кузняцоў.

«Камунізм не прызналі злачынным рэжымам, але нормы законаў 1928 года, раздзел «контррэвалюцыйныя злачынствы», ужо ў перыяд перабудовы ў 1980-х гадах гэтыя справы былі прызнаныя сфальсіфікаванымі… Калі мы гаворым пра Геніюш, калі Вярхоўны суд апелюе кодэксам 1928 года - гэта неправамоцна. Вярхоўны суд абавязаны ўзяць на сябе гэтую функцыю і ацэньваць дзейнасць Геніюш з пункту гледжання гуманізму, а не кодэкса 1928 года».

# МОЛАДЗЬ БНФ РЫХТУЕЦЦА ДА ВЫБАРАЎ ДЭПУТАТАЎ МЯСЦОВЫХ САВЕТАЎ

Моладзь БНФ распачыла падрыхтоўку да выбараў у мясцовыя саветы дэпутатаў. Першым сваю дзейнасць па падрыхтоўцы да выбарчай кампаніі пачаў кіраўнік Моладзі БНФ Юрый Лукашэвіч, які вылучаецца кандыдатам у дэпутаты ў Залінейным раёне горада Барысава.

30 жніўня ён разам з некалькімі актывістамі распачалі збор подпісаў за будаўніцтва новай сучаснай палiклінікі на тэрыторыі Залінейнага раёна.

"Старая паліклініка №3 зараз знаходзіцца не ў самым лепшым стане. Не хапае кваліфікаваных спецыялістаў, няма якаснага абсталявання, з-за гэтага людзям не могуць аказаць пэўныя медыцынскія паслугі, у якіх яны маюць патрэбу. Нават каб проста прайсці абследаванне, прыходзіцца ездзіць у іншыя паліклінікі горада, што, зразумела, нязручна для жыхароў нашага раёна. Таму мы спадзяемся, што наша ініцыятыва дасць свае вынікі, і калі нават не пабудуць новую паліклініку, то хаця б прывядуць існуючую ў належны стан", — паведамляе Юрый Лукашэвіч.

Як распавядаюць актывісты, людзі вельмі пазітыўна рэагавалі на дадзеную ініцыятыву і актыўна падпісваліся. Шмат хто казаў, што сапраўды даўно трэба было заняцца гэтай праблемай, бо існуючая паліклініка на самай справе не спраўляецца са сваім прызначэннем.

Пасля збору подпісаў актывісты адправіліся на абыход раёна, каб высветліць найбольш важныя праблемы. Безумоўна, першае, што кідаецца ў вочы, гэта дрэнныя дарогі. Шмат дзе на вуліцах наогул няма асфальту, а там, дзе ёсць, ён увесь пабіты і з ямамі. Такая дрэнная якасць дарог стварае пэўныя нязручнасці як для аўтамабілістаў, так і для пешаходаў, а таксама стварае ўмовы для магчымых дарожных здарэнняў.

Пасля актывісты наведалі мясцовы пляж, і , як высветлілася, за апошні час ён таксама прыйшоў у вельмі дрэнны стан. Як распавядаюць маладыя людзі, складваецца ўражанне, што за гэтым месцам ніхто не сачыў ужо некалькі год. Усё наваколле зарасло высокай травой, шмат дзе затапіла вадой, таму нават дабрацца да вадаёма даволі праблематычна.

"Падчас абыходу акругі ў нас атрымалася высветліць найбольш відавочныя з існуючых праблемаў. Акрамя таго, мы паразмаўлялі з мясцовымі жыхарамі, што дазволіла скласці цалкавітае ўражанне аб сённяшняй сітуацыі ў раёне.

Працы наперадзе будзе шмат, бо праблемаў у акрузе сапраўды ня мала, але мы гатовы займацца справамі для іх вырашэння", — распавядае Дзяніс Мандзік, каардынатар кампаніі.

У бліжэйшы час першая дзясятка падрыхтаваных кандыдатаў распачне свае кампаніі. Усяго Моладзь БНФ плануе выставіць 50 кандыдатаў на мясцовыя выбары.

# ДАЛУЧАЙЦЕСЯ ДА ПЕТЫЦЫІ СУПРАЦЬ ВУЧЭНЬНЯЎ ЗАХАД-2017!

На сэрвісе Удобный город. Petitions.by з'явілася петыцыя супраць вучэньняў "Захад-2017"

Паставіць свой подпіс пад петыцыяй можна тут: https://petitions.by/petitions/1027

Тэкст звароту, які будзе накіраваны ва ўрад:

Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, рашуча выступаем супраць правядзеньня на тэрыторыі нашай краіны вучэньняў Захад-2017.

Беручы пад увагу, што:

1) перадыслякацыя расейскіх вайскоўцыў ды вайсковай тэхнікі ў Беларусь ужо пачалася з мэтай падрыхтоўкі да вучэньняў;

2) улады Беларусі неаднаразова рабілі афіцыйныя заявы ад тым, што маюць намер правесьці сумесныя з расейскім войскам вайсковыя вучэньні Захад-2017 на тэрыторыі Беларусі;

3) прадстаўнікі ўрадаў, палітыкі ды грамадзтва суседніх нашай краіне Латвіі, Літвы, Польшчы ды Украіны неаднаразова выказвалі заклапочанасьць правядзеньнем вучэньняў Захад-2017 ды прысутнасьцю ў Беларусі расейскіх вайскоўцыў ды вайсковай тэхнікі; заяўлялі аб такіх непазьбежных наступствах правядзеньня вучэньняў Захад-2017, як эскалацыя напружанасьці ў рэгіёне, зьмяньшэньне даверу да Беларусі як добрага суседа ды донару міру ды стабільнасьці ў рэгіёне, павелічэньне пагрозаў сувэрэнітэту ды незалежнасьці Беларусі з боку Крамля;

мы заяўляем:

Мы перакананыя, што прыбыцьцё ў Беларусь тысячаў расейскіх вайскоўцаў і сотняў адзінак расейскай вайсковай тэхнікі супярэчыць канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і нашым нацыянальным інтарэсам, бо разбурае рэпутацыю беларусаў як мірных і добрых суседзяў у рэгіёне, істотна ўзмацняе напружаннасьць паміж Беларусьсю ды ўсімі, апроч Расеі, суседзямі нашай краіны, а таксама нясе наўпроставую пагрозу страты дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Мы патрабуем адмяніць правядзеньне вайсковых вучэньняў Захад-2017, неадкладна спыніць перадыслякацыю ў Беларусь расейскіх вайскоўцаў ды вайсковай тэхнікі ды адправіць дахаты ўсіх тых расейскіх вайскоўцаў, якія ўжо знаходзяцца ў Беларусі.

Мы патрабуем поўнай калькуляцыі ды публічнай справаздачы перад беларускім грамадзтвам ад дзяржаўных органаў аб памеры той шкоды, што будзе нанесеная расейскімі вайскоўцамі ды тэхнікай цягам вучэньняў Захад-2017 прыродным рэсурсам ды навакольнаму асяродзьдзю Рэспублікі Беларусь. Мы патрабуем таксама даць адказ, за кошт якіх сродкаў будзе адбывацца аднаўленьне гэтай шкоды.

Мы патрабуем неадкладнага агучваньня дакладнага тэрміну вываду расейскай вайсковай тэхнікі ды вайскоўцаў зь Беларусі, а таксама пераканаўчых доказаў ды сьведчаньняў, што ўся расейская вайскова тэхніка была выдаленая з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Мы патрабуем таксама пераканаўчых доказаў таго, што падчас вучэньняў не адбудзецца стварэньне інфраструктуры дзеля магчымых будучых вайсковых дзеяньняў Расеі супраць суседзяў Беларусі або супраць самой нашай краіны.

Не дамо ўцягваць Беларусь у чужыя войны! Не дамо разьвязаць вайну супраць Беларусі!

# КЛЮЧАВАЯ ЗАДАЧА АБСЕ - АБАРАНІЦЬ ПРАВА ЛЮДЗЕЙ НА МІРНЫЯ ПРАТЭСТЫ

**Парламенцкая асамблея АБСЕ павінна патрабаваць ад уладаў выканання гэтага канстытуцыйнага права беларусаў.**

Пра гэта распавёў Хрыстафор Жаляпаў, удзельнік паралельнага форуму грамадзянскай супольнасці, які праходзіў у Менску.

**– На паралельным форуме грамадзянскай супольнасці ў Менску вы былі адзіным, хто падняў пытанне аб неабходнасці змагацца за права беларусаў на мірны пратэст. Чаму вы ўважаеце гэтую тэму за найбольш актуальную?**

– Галоўная прычына актуальнасці гэтага пытання ў тым, што ўсе асноўныя рэпрэсіі, арышты і штрафы ў Беларусі апошнім часам накіраваныя менавіта супраць удзельнікаў мірных акцый пратэсту.

Паводле астатніх артыкулаў, якія тычацца грамадзянскай актыўнасці, мы як раз дамагліся таго, што ўлады хоць бы часова «схавалі кіпцюры». Напрыклад, мы доўга змагаліся за тое, каб не было пераследаў паводле артыкула 193.1 (дзейнасць ад імя «незарэгістраванай арганізацыі») - і цяпер практычна няма рэпрэсій паводле гэтага артыкула. А вось на ўдзельнікаў мірных акцый як раз і абрынулася ўся моц рэпрэсіўнага апарата. Таму гэтая тэма - самая актуальная цяпер у Беларусі.

Па-другое, і я ў гэтым цвёрда перакананы, калі ў чалавека будзе права выйсці на мірную акцыю, нават на адзіночны пікет, - пачынаецца «ланцуговая рэакцыя» на гэтую акцыю і ўлады ўжо не могуць не рэагаваць. Кожная публічная дэманстрацыя - гэта тое, што прымушае іх адчуваць сябе некамфортна. А калі на вуліцы выйдзе вялікая група людзей - рэзананс непазбежны, улады проста не могуць праігнараваць гэты факт.

Давай паглядзім, як гэта працуе ва ўсім свеце. Напрыклад, прыняў Трамп нейкі ўказ, і ёсць нязгодныя з гэтым дакументам. Што яны робяць у першую чаргу? Людзі выходзяць на вуліцу. І ўсюды, у кожнай нармальнай краіне, калі нешта не так - людзі адразу выходзяць на вулічны пратэст. І толькі пасля гэтага пачынаецца інфармацыйная «хваля» і нейкая рэакцыя. Іншых эфектыўных шляхоў барацьбы за свае правы проста няма.

Калі мы даможамся права выходзіць на вуліцу і выказваць свой пратэст - гэта стане самай галоўнай перамогай для беларусаў і самым галоўным фактарам таго, што мы зможам далей змагацца і бараніць свае правы.

Мірныя пратэсты - гэта ключавая задача цяпер для нас. Калі чалавек будзем мець права публічна выйсці на Плошчу, на вуліцу, да кожнай дзяржаўнай установы - усё астатняе прыкладзецца.

**– Як удзельнікі форуму адрэагавалі на ваш тэзіс аб тым, што права на мірны пратэст - самае важнае для беларусаў у сённяшніх варунках?**

– Шчыра скажу: я незадаволены рэакцыяй нашых праваабаронцаў. Рэакцыя была чыста фармальнай. Адзін калега сказаў: не, гэта не можа быць прыярытэтным, самае ключавое пытанне – гэта захаванне свабоды слова. Іншы калега самым важным назваў пытанне аб скасаванні смяротнага пакарання. І ў выніку тэму мірных пратэстаў «замялі».

**– Што неабходна рабіць, каб тэма мірных пратэстаў стала найбольш актуальнай і атрымалася вярнуць беларусам гэтае канстытуцыйнае права?**

– Ёсць некалькі шляхоў.

Па-першае, форум праводзіўся напярэдадні адкрыцця Парламенцкай асамблеі АБСЕ ў Менску. І мы прынялі заяву, якое будзе агучаная на сесіі ПА АБСЕ. Паводле такога ж прынцыпу пытанне права беларусаў на мірныя пратэсты трэба падымаць ва ўсіх міжнародных інстанцыях, у якіх хоць неяк удзельнічае Беларусь. І даводзіць да кіраўніцтва гэтых арганізацый, каб яны патрабавалі ад беларускіх уладаў захавання ўзятых на сябе міжнародных абавязацельстваў.

Па-другое, усякія незаконныя пастановы ўладаў аб забароне акцый або штрафах для іх арганізатараў павінны масава абскарджвацца ва ўсіх інстанцыях. Проста на ўсіх узроўнях і ўсімі, хто сутыкнуўся з несправядлівасцю. У кожным выпадку неабходна актыўна патрабаваць скасавання незаконных пастаноў.

Па-трэцяе, трэба проста праявіць сваю грамадзянскую мужнасць. Актывісты і звычайныя грамадзяне краіны павінны не баяцца і проста выходзіць на вуліцы, нават калі акцыю не дазволілі. Не важна, колькі людзей выйдзе - гэта стане прыкладам для астатніх. Трэба проста прайсці гэты шлях. А вада камень точыць.

# “ПРАВА ВЫБАРУ” ЗЛАДЗІЦЬ НАЗІРАНЬНЕ

**Кампанія назірання за выбарамі "Права выбару» арганізуе поўнамаштабнае назіранне за выбарчымі кампаніямі ста альтэрнатыўных уладам кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў, выбары якіх адбудуцца не пазней за 20 лютага 2018 года.**

Сто прэтэндэнтаў у дэпутаты мясцовых саветаў будуць прадстаўляць арганізацыі, якія ўваходзяць у кампанію «Права выбару». «Мы выбралі 100 моцных кандыдатаў, якія пачынаюць лакальныя інфармацыйныя кампаніі з мэтай вырашэння мясцовых праблемаў, назапашаных з-за пасіўнасці цяперашніх дэпутатаў мясцовых саветаў», – заявіў на прэс-канферэнцыі каардынатар кампаніі «Права выбару» Алесь Сілкоў, паведамляе інтэрнэт-газэта Naviny.by.

«Права выбару» будзе фактычна адзінай сістэмнай кампаніяй назірання. Плануецца, што назіральнікаў будзе больш за 1000, і яны прыйдуць на ўчасткі толькі ў сам дзень выбараў – асягнуць датэрміновае галасаванне не дазваляюць рэсурсы.

Пад гэтыя выбары ЦВК створыць электронны рэгістр выбаршчыкаў – каб не дапусціць «каруселяў» і галасавання «мёртвых душ». Аднак апазіцыйныя палітыкі ўпэўненыя, што фальсіфікацыяў меней не стане. Таму разлічваць варта на падтрымку выбаршчыкаў, якія ужо паспелі расчаравацца ў кіроўных чыноўніках.«Няма ў людзей даверу да дзеючых дэпутатаў, да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, людзі разумеюць, што прызначаныя дэпутаты нічога не робяць і яны гатовыя далучацца да гэтых кампаніяў», – упэўнены старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч.

Новых кандыдатаў у мясцовых саветах чакаюць больш як 18 тысяч крэслаў. Адбудуцца выбары ў савет дэпутатаў не пазней за 20-га лютага наступнага году.